ПРАЦОЎНАЯ БЕДНАТА ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙСЯ! Цана 15 к.

# ГРАМАДЗЯНІН

выходзіць два разы у тыдзень у аўторкі і пятніцы.

| Каштуе: | Орган Левае Фракцыі Беларускае Социалістычнае Грамады. | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| на 1 месяц . . . . 1 р. | | на 1-ай стр. . . . . 80 к. |
| на 3 мес. . . . . . 3 р. | | на 4-ай стр. . . . . 40 к. |

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **Віленская вул. № 33 кв. 2** (уваход з вуліцы).
Рэдакцыя адчынена: ад 10 — 1.

№ 2. Вільня, 17 студня 1919 г. Год I.





## *Вільня 17 студня 1919 г.*

Паміж шуму і грукату тае вялізарнае ламаніны, каторая нішчыць увесь стары сьвет і рухае вякамі створаную буржуазнымі клясамі культуру, паміж агню і дыму ўсіх паруханьняў і зьнішчэньняў, кола сусьветнай гісторыі як маланка, як гром у высокім небе з грукатам і асьляпляючым блескам коціцца ўсё ўпярод і ўпярод і няма тае сілы, каторая-б магла спыніць быстрыню яго руху. Пажар сусьветнай гісторыі ўсё балей і балей ўгараецца і ўсе тыя спробы англіцка-амэрыканскай буржуазіі, каторымі яна стараецца астанавіць, ці навет задушыць рэволюцыйны рух у Эўропе скончацца такім-жа трагікамічным фарсам, якім скончылася спроба польскай клерыкальна імпэрыялістычнай буржуазіі, каторая хацела штыхамі — сваймі белагвардзейскімі бандамі — польскімі легіонэрамі захапіць уладу на Беларусі і Літве.

Той, хто прыглядаўся ў апошнія гады да разьвіцьця сусьветнага мілітарызму, а потым і вайны, як рэзультат палітыкі мілітарызму, хто стараўся ўнікнуць у главнейшыя прычыны гэтай вялізнай бойні людзей, якую толькі відзела гісторыя—той пэўне з намі згодзіцца, што гэтую страшную бойню пачалі сусьветныя грабаўнікі, багатыры-капіталісты, шукаючы балей карысных рынкаў для збыту сваіх тавараў, дзеля найкарысьнейшага разьмяшчэньня сваіх капіталаў. Свае грабаўніцкія мэты ўся гэтая хэўра міжнародных разбойнікаў, усе гэтыя Мікалаі, Вільгельмы, Льлёйд-Джорджы, Пуанкарэ, Вільсоны і г. д. усе яны стараліся апутаць народ, прыкрываючы разбой і грабеж гэткімі харошымі словамі: мы ваюем за вызваленьне малых народаў з-пад зьдзеку і ўціску вялікшых; альбо: мы ваюем за свабодны саюз народаў, як гэта казаў главны кіраўнік англіцка-амэрыканскай буржуазіі—Вільсон. Усе яны стараліся, каб апутаць народ, каб заставіць цёмныя галодныя масы народу нішчыць адзін аднаго, а каб самым у мут-

**Таварышы! На Вашым абавязку ляжыць, каб выходзіла Вашая партыйная часопісь у роднай Вашай мове.**

**Усе павінны купляць і пашыраць сваю сялянскую і работніцкую газэту!**

най вадзе лавіць рыбу. Але ўсе гэтыя авантуры ня зусім ім удаліся. Вайна адчыніла вочы працоўнаму народу, яна паказала ўвесь жах і мізэрнасьць усяе буржуазнай культуры і ўсю няўзможнасьць буржуазна-капіталістычнага ладу грамадзкага жыцьця. Узброеныя з ног да галавы працоўныя народы, заместа таго каб далей седзячы ў акопах забіваць адзін аднаго, павярнулі свае штыхі проці праўдзівых сваіх непрыяцеляў паноў і капіталістаў і мы бачылі, як паўстаўшы народы ў Расеі, Боўгары, Аўстра-Вэнгры і Нямеччыне прагналі сваіх цароў і ўсіх іх падлыжнікаў мініstraў. Мы бачым як рэволюцыйны рух абхапіў усю ўсходнюю Эўропу, дзе працоўныя народы вядуць апошняе змаганьне за ўстанаўленьне свае соцыялістычнай улады. І напэўна, што ня пройдзе і некалькіх тыдняў, як народы, каторыя дагэтуль яшчэ ўціскаюцца англіцка-француска-амэрыканскай імпэрыялістычнай буржуазіяй паўстануць і так сама прагоняць сваіх угнетацеляў і ўстановяць свае рэволюцыйныя сялянскія і работніцкія ўрады.

Сусьветная вайна скончыцца сусьветнай рэволюцыяй. Гэтая найстрашнейшая сусьветная крывавая бойня скончыцца сусьветнай свабодай, роўнасьцяй і братэрствам усяго працоўнага народу і настане запраўды тады вечны мір і запануе на ўсім сьвеце праўда і справядлівасьць.

Усе народы, скінуўшы з сваіх плеч ярмо панаваньня гвалту і зьдзеку і выйшаўшы на дарогу свайго духоўнага і эканамічнага адраджэньня пачнуць на руінах старога сьвету будаваць сваё новае вольнае жыцьцё. Усе народы пачнуць прымаць учасьце ў сусветным будаўніцтве новага жыцьця, усе народы як роўныя з роўнымі і вольныя з вольнымі будуць тварыць лепшую шчасьлівую будучыну. Ня будзе тады ні лепшых, ні горшых, а ўсе будуць працаваць на агульную карысьць усяе людзкое грамады.

Няўжож мы беларусы не паложым хоць аднае цагліны на будоўлю фундамэнту гэтай новай сьветлай будучыны людзкасьці, няўжож у нас ня хопіць сіл каб стаць у сьцягі ўсіх вольных народаў і голасна сказаць: хоць я ў лапцёх, а мужык, яле я ўсім роўны!.. Даволі! прайшлі ўжо тыя часы, калі беларускі народ стагнаў ад уціску і зьдзеку польскіх паноў і маскоўскіх жандароў, прайшлі тыя часы, калі ён забіты ня сьмеў навет прызнацца да свае нацыянальнасьці. Цяпер ён скінуў ужо хамут з свае шыі, ён стаў цяпер раўнапраўным грамадзянінам, ён стаў гаспадаром у сваёй хаце — сваім родным краі. Наш народ цяпер ужо выйшаў на шырокі і праўдзівы гасьцінец свайго эканамічнага і культурна-нацыянальнага адраджэньня і разьвіваючы свае вялікія духоўныя багацьці ён многа зможа ўнесьці ў агульнае будаўніцтва лепшай шчасьлівай будучыны і зусім ужо недалёка той дзень, калі наш працоўны сярмяжны сялянскі народ арганізаваны ў свае сялянскія і работніцкія рады, стаўшы побач з іншымі вольнымі народамі здабудзе сабе лепшую долю ў сусьветным хаўрусе вольных народаў.

Няхай жыве сусьветная Рэволюцыя!

Няхай жыве сусьветная фэдэрацыя соцыялістычных радавых рэспублік!

---

# КРОНІКА.

**1-ая Беларуская Гімназія.** У скорым часе будзе назначаны экзамен для паступаючых у 1-ую Беларускую гімназію. Хто не падаў просьбы, просяць хутчэй падаць. Навука ў гімназіі дарма. Для дзяцей вясковай бедныты ў гімназіі будзе інтэрнат (дарма кватэра і стол).

**Беларускі народны тэатр.** Беларускі тэатру Вільні ажыўляецца. Прыбыло некалькі здольных маладых сіл. У пятніцу 17 студня ў 7 гадз. увечары у Беларускім Клюбе (Юрскі проспэкт № 22) адбудзецца сабраньне ўчасьнікаў Беларускага народнага тэатру. Просяць т. т. артыстаў і харыстаў прысьці.

**Аб некаторых сябрах Літ. Рэволюцыйнага Ураду.** Міцкевіч-Капсукас—старшыня Час. Літоўскага Рэволюцыйнага Работніцка-Сялянскага Ураду. У 1910 г. Міцкевіч уцёк з катаргі, дзе ён быў з 1906 г. Пасьля гэтага ён жыў у Нямеччыне, Англіі і Швайцарыі. У 1913 г. ён пераехаў у Амэрыку і прыняў вялікае ўчасьце ў работніцкім руху. Ён быў рэдактарам соцыялістычнай газэты. Вышэйшую навуку дастаў у Расеі і Швайцарыі. Міцкевіч-Капсукас—вядомы літоўскі журналіст. Як у Расеі настала рэволюцыя ён з Англіі пераехаў у Расею і стаў актыўным сябрам большэвіцкай партыі, а пазьней камісарам літоўскіх спраў.

Алекса-Ангарэтіс—Літоўскі журналіст; сядзеў у рыскай турме і быў на катарзе ў Сыбіры. Асвабоджаны падчас рэволюцыі.

Аляксандар Якшэвіч—народны вучыцель, соцыяліст-народнік, а потым актыўны работнік комуністычнай партыі. („Унзер Штімме").

**Падніцьце платы на 75%.** На сабраньні друкарскіх работнікаў пастаноўлена падняць плату на 75%.

**У камісарыяце асьветы Літоўскага Ураду.** Паводлуг вестак, якія мае рэдакцыя з зусім пэўнай і першай крыніцы, камісарыят народнай асьветы Літвы не маніцца зараз-жа рашуча ла-

# Таварышы! Вашая будучына у Вашых руках! Арганізуйце свае вясковыя, местачковыя, валасныя і павятовыя беларускія рады сялянскіх і работніцкіх дэпутатаў!

мацъ школьную сыстэму, каторая ў нас ёсьць цяпер. Школы ўсіх тыпаў будуць рэформаваны памалу. Для правядзеньня рэформы школы будуць утвораны пробкавыя (ўзаровыя) школы, у каторых будзе праграма і сыстэма працоўнай радавай школы. Будзе створаны адумыслова кадр дазнаных школьных вучыцялёў, мэтай каторых будзе—памагаць пэдагогам старой школьнай сыстэмы прытарнавацца да вымог новай сыстэмы.

Школы будуць у мясцовых мовах: літоўскай, беларускай, жыдоўскай а таксама польскай.

Будуць прыняты меры, каб выгнаць з школьнага жыцьця нацыяналізатарскія тэндэнцыі некаторых элемэнтаў, што стараюцца мясцовае насяленьне штучна русыфікаваць, полёнізаваць і г. д.

**Арышты.** Міліцыяй зроблены сьцяг арыштаў польскіх легіонэраў (каля 100 чал.), у многіх знойдзена аружжа. Арыштаваны таксама немцы, прымаўшыя ўчасьце ў рабунках і нападах. 13-га студня арыштавана некалькі асоб па падазрэньню іх у спэкуляцыі грашмі.

Сочная (сьледзтвеная) камісія рэволюцыйнага камітэту пачала разгляд спраў арыштаваных, лічба каторых у Лукішскай турме даходзіць да 300.

**Камісар асьветы.** Народным камісарам асьветы ў Літве назначаны Біржышка (брат дырэктара віл. літоўскае гімназіі). Учора камісар Біржышка прыняў ад упаўнамочанага б. „Тарыбы“ усе справы і грашавыя сумы.

Як мы даведаліся, камісарыят нар. асьветы маніцца вельмі шырока разьвіць справу асьветы народных мас.

**«Бунд» і ўстаноўчы сэйм.** На агульным сабраньні Віленскай арганізацыі „Бунда“ вынесена рэзалюцыя проціў устаноўчага сэйму.

Цэнтральны камітэт „Бунда“, органам каторага ёсьць „Унзэр Штімэ“ стаіць за ўстаноўчы сэйм.

**Пачтовыя зносіны.**

На віленскай почце прымаюцца лісты ў Расею. Лісты вязуцца коньмі да Сол і Ляндварова, а адтуль—па чыгунцы далей.

**Сабраньне дворнікаў і швайцароў.** У пятніцу 10 студня ў Работніцка-Сялянскім клюбе адбылося сабраньне дворнікаў і швайцароў. Пастаноўлена арганізаваць профэсыянальны саюз. Проэкт статуту даручана апрацаваць часоваму праўленьню, у каторае выбрана 9 асоб: І. Малышка, М. Оболевіч, В. Івашкевіч, А. Бурка, Я. Невяроўскі, А. Прэдкус, І. Прачкайла, В. Дрозд і І. Станішэўскі. Статут будзе пададзены на зацьвярджэньне чароднаму сабраньню.

Праўленьне саюза памяшчаецца ў Работніцка-Салянскім клюбе, на Дамініканскай вул. № 21.

**Саюз-саюзаў працаўнікоў.** У Вільні па ініцыятыве профэс. саюзу юрыстаў арганізуецца саюз інтэлігэнтных працаўнікоў. Намэчаецца, што ў гэтую прафэсыянальную арганізацыю ўвойдуць па два дэлегаты ад кожнага саюза інтэлігентных працаўнікоў.

**Конфэрэнцыя профэсыянальных саюзаў.** 11 студня ў суботу адбылася конфэрэнцыя профэсыянальных саюзаў. Зроблены гэткія пастановы:

1) Конфэрэнцыя прапануе зараз-жа ўтварыць камісарыят працы.

2) Конфэрэнцыя зварочаваецца да Р. Р. Д. з пропанаваньнем даць грошы на першую падмогу безработным.

3) Камісарыяту працы перадаецца арганізацыя біржы працы.

Аб'еднаньне профэсыянальных саюзаў пастаноўлена рабіць па інтэрнацыянальнаму прынцыпу.

---

## Абавязковая пастанова прэзыдыума Віленскае Рады Работніцкіх Дэпутатаў.

1) Прэзыдыум Віленскае Рады Работніцкіх Дэпутатаў абвяшчае, што з дня апублікаваньня гэтае пастановы ўсе дамы распусты касуюцца.

2) Загадчыкам аддзелам народнае асьветы пры Віл. Радзе раб. дэпут. назначаны тав. Трайніс, яго памочнікам тав. Гінзбург; загадчыкам аддзелам працы—тав. Сьлюкін, аддзелам статыстыкі—тав. Сабасьцьянов.

3) Просьбы аб назначэньні на ўрад у канцыляры Совдепа перасталі прымаць. На будучы час гэткія просьбы належыць падаваць у біржу працы. Просьбы ўжо раней паданыя ў прэзыдыум Совдепа, будуць пераслаты ў біржу працы.

Старшыня Совдепа *Ф. Эйдукевіч.*
Сэкрэтар *І. Ольскі.*

## Абавязковыя пастановы.

Усім Ваенна-Рэволюцыйным Камітэтам, Радам работніцкіх, беззямельных і малазямельных сялянскіх дэпутатаў, усім вясковым арганізацыям і комуністычнай партыі Літвы і Беларусі, усім комуністам і спагаднікам.

1. Народны Камісарыят зямельных спраў зварочаваецца да ўсіх вышэйназваных арганізацый і асоб зараз-жа ўтварыць Зямельныя Аддзелы пры Ваенна-Рэволюцыйных Камітэтах, пры Радах работніцкіх, беззямельных, малазямельных сялянскіх дэпутатаў і даручыць Зямельным Аддзелам без адкладу прыступіць да учоту ўсіх двароў і вялікіх сялянскіх сяліб. Пры укладаньні учотаў сабраць статыстычныя данныя аб стане даннай гаспадаркі.

2. Апісаньне маемасьці да ўтварэньня валасных спаўняючых камітэтаў павінна быць у Радаў сельска-гаспадарскіх работнікаў, а копіі іх павінны быць перасланы ў Народны Камісарыят Зямельных Спраў, а таксама пададзены паветавым (крайзовым) спаўняючым камітэтам, як яны будуць выбраны паветавымі зьездамі Радаў.

3. Пасьля выбараў валасных спаўняючых камітэтаў пратаколы апісаньняў павінны быць перададзены ў валасныя спаўняючыя камітэты; копіі-ж іх павінны быць пакінены ў Радах сельска-гаспадарскіх работнікаў.

Загадчык Народным Камісарыятам Зямельных Спраў *З. Алекса Ангарэтіс.*
За сэкрэтара *В. Матусэвіч.*

# З БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ.

**Склад Рэволюцыйнага Работніцка-Сялянскага Ураду Літвы.**

Старшыня Рады Народных Камісараў і Народны Камісар загранічных спраў — Міцкевіч-Капсукас. Упраўленьня—Алекса-Ангарэтіс. Народнай гаспадаркі — Бараноўскі. Грашавых спраў—Ціхоўскі. Асьветы—Біржышка. Дарог—Свотяліс. Працы—Дзіманштэйн.

**Дзеяньне польскіх легіонэраў.**

ЖЭГЕРЭНА. Польскія легіонэры прыбыўшы 7-га ў вёску Жэгерэна зрабавалі маемасьць усіх жыхараў.

Назаўтрае нараніцы яны ўцяклі не пасьпеўшы споўніць свайго абяцаньня павесіць некаторых жыхараў, каторыя дзякуючы ўцекам легіонэраў асталіся жывымі.

# УКРАІНА.

**Сялянскі зьезд.**

На пасяджэньні сялянскага зьезду ў Кіеве прыняты гэткія рэзалюцыі:

1. Дырэкторыя украінскае працоўнае рэспублікі ў самым недалёкім часе павінна склікаць зьезд працоўнага народу Украіны з прадстаўнікоў сялян, работнікаў і салдатоў.

2. Дырэкторыя украінскае народнае рэспублікі павінна рашуча заявіць, што працоўны народ Украіны хоча жыць у згодзе з працоўным народам усяго сьвету, але ніякім спосабам не дапусьціць чужым заводзіць у яго парадкі.

3. Да скліканьня працоўнага зьезду канечна патрэбна, каб дырэкторыя зараз-жа пачала праводзіць у жыцьцё ўсе рэформы соцыяльнага і палітычнага характару, каторыя палягчылі-б палажэньне працоўных клясаў сялян і работнікаў.

4. Дырэкторыя украінскае народнае рэспублікі павінна зараз-жа прыняць самыя рашучыя меры дзеля арганізацыі народнай арміі на аснове самай срогай дысцыпліны і парадку, і гэтым забаспэчыць зямлю і волю працоўнаму народу.

5. Урад украінскае народнае рэспублікі павінен зараз-жа апрацаваць закон аб арганізацыі ўлады на мясцох і ўтварыць патрэбныя варункі дзеля шырокай арганізацыі працоўнага сялянства, як аснову быцьця працоўнай рэспублікі ў форме сялянскіх і работніцкіх саюзаў, каторыя маюць права шырокага кантролю над прадстаўнікамі цэнтральнай улады на мясцох.

6. Само працоўнае сялянства на мясцох павінна рупіцца аб тым, каб не дапусьціць нарушэньня парадку і анархіі па вёсках, бо парадак і дысцыпліна цяпер дае магчымасьць сялянству арганізавацца і ўдзяржаць уладу ў магутных руках

7. Дырэкторыя укр. нар. рэспублікі павінна прыняць самыя рашучыя меры, каб арыштаваныя з гэтманскай і самахвотнай арміі афіцэры і генэралы былі цяжка пакараны.

8. Павіннасьцяй дырэкторыі ёсьць забаспэчыць сем'і тых, хто памёр або стаў калекам у часе вайны за волю працоўнага народу Украіны.

9. Дырэкторыя ук. нар. рэспублікі павінна дамагацца таго, каб у найбліжэйшы час усе чужаземныя войскі выехалі за межы Украіны.

10. Дырэкторыя украінскае народнае рэспублікі павінна памагаць усімі спосабамі працоўным народам Галіччыны, Букавіны, Кубані і Чарнаморра ў барацьбе за палітычнае і соцыяльнае вызваленьне.

КІЕЎ. Немцы памалу пакідаюць Украіну і ўладу бярэ Петлюра. Гэтманскае войска ня можа супраціўляцца. Толькі ў некаторых мясцох ля Чорнага мора ёсьць часьці гэтманскага войска, каторыя яшчэ ня ведаюць аб тым, што гэтман сьпінены.

Сяляне, даведаўшыся на свайой скуры ўлады „окупацыі“ і ўраду Скарападзкага—радасна сустракаюць армію паўстанцаў.

# ЛАТВІЯ.

**Скасаваньне „Чрезвычайкі“ у Курляндыі.**

У раёне дзеяньняў Чырвонай Арміі латышскай групы скасаваны пастановай Рэволюцыйнае Рады ўсе „чрезвычайки“. Усе справы пераходзяць да палітычных аддзелаў пры рэволюцыйных камітэтах, Радах Раб. і Салд. дэпутатаў і Военна-Рэволюцыйных Камітэтах.

# З РАСЕІ.

**Скасаваньне пачтовых марак.**

Рада народных камісараў пастанавіла з 1-га студня 1919 г. скасаваць плату за перасылку па почце адчыненых і заклееных лістоў вагай да 15 грамаў.

Загад гэты датычыць таксама загранічнай корэспондэнцыі. Каб зрабіць адпаведныя зьмены у міжнароднай пачтовай конвэнцыі, камісарыят почтаў і тэлеграфаў зьвярнуўся да ўрадаў іншых гасударстваў.

Рэдакцыя: *Рэдакцыйны Колектыў.*
Выдавецтва: *Віленскі Камітэт Левае Фракцыі Беларускае Соцыялістычнае Грамады.*

Друкарня „Швітуріс“, Татарска вул. № 20.